## У Гародні - дыктоўка на Дзень Волі




Каля двухсот удзельнікаў агульнанацыянальнай дыктоўкі ледзь умясціла зала па вуліцы Будзёнага 48А ў Гародні. Гэта шостая ўжо дыктоўка, якая дэманструе салідарнасць прыхільнікаў мовы. Сёлета яна была прымеркавана да 150-й гадавіны нацыянальна-вызвольнага паўстання. Таму ў якасці тэкста для дыктоўкі быў выбраны "Ліст з-пад шыбеніцы" аўтарства Кастуся Каліноўскага. Тэкст прачытаў літаратурны крытык, прафесар Аляксей Пяткевіч. На пачатку, ён адзначыў, што імя Кастуся Каліноўскага паміж беларусамі найбольш шаноўнае.

- Мы багацейшыя на многа за іншых, таму што маем гэтую магутную, гераічную постаць. Маем чалавека, які ўзначаліў паўстанне супраць Расіі, змагаючыся за нацыянальную незалежнасць Беларусі, ставячы перад сабой высокародныя, прыгожыя мэты. І за гэта ён аддаў жыццё.

Заслужаны настаўнік, Алесь Белакоз, які меўся чытаць дыктоўку, па стану здароўя не здолеў прыехаць. Пад час арганізацыі і правядзення мерапрыемства была праведзена таксама рэкламная акцыя беларускіх незалежных сродкаў масавай інфармацыі. Сярод іх: газеты "Ніва" і Беларускага Радыё Рацыя.

## Затрыманні ў Менску



Праваабарончы цэнтр "Вясна" паведамляе пра затрыманых падчас святкавання ў Менску Дня Волі. Праваабаронца Таццяна Равяка ў прыватнасці пацвердзіла, што сярод затрыманых ёсць грамадзяне замежнай краіны.

Таццяна Равяка:

- На дадзены момант нам вядома, што ў РУС Савецкага раёна знаходзіцца 8 затрыманых, сярод іх трое грамадзян Украіны. Астатняя інфармацыя збіраецца, яна яшчэ няпэўная, таму што кагосьці затрымалі і адпусцілі, кагосьці не адпусцілі, але прозвішчы нам яшчэ невядомыя. Таму зараз адбываецца ўдакладненне спісу тых, каго затрымалі, і якія будуць для іх наступствы.

Каля тысячы чалавек узялі ўдзел ў шэсці і ўрачыстым мітынгу на Дзень Волі ў Менску. Удзельнікі скандавалі "Жыве Беларусь!" і патрабавалі дэмакратычных зьменаў у краіне. Супрацоўнікі міліцыі, якія суправаджалі калону, вялі ўдзельнікаў шэсця па нязручным маршруце праз вузкія вуліцы і снег, дарожны рух не быў перакрыты, што не давала калонне ісці хутка і аднародна.

## Алесь Бяляцкі пра свята 25 сакавіка

25 сакавіка 1982 года адзначалі мы ў лесе пад Менскам. Ігліца пад хвоямі была вільготная, паветра п'янкое, у лагчынах яшчэ шэрхнуў снег. Мы паставілі між хвояў на грудку самаробны бел-чырвона-белы сцяг, выпілі пляшку гарэлкі, праспявалі "Мы выйдзем шчыльнымі радамі". Адчуванне такое, што ў нас была свая, хоць і далёкая незалежнасць, прыемна хвалявала. У гэты дзень у 1918 годзе беларусы насуперак варожаму свету заявілі: "Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнай і вольнай дзяржавай".



Прайшоў час і, дзякуй Богу, гэта ўжо не толькі нашае свята.

Я заўсёды з унутраным задавальненнем і гонарам разглядаю агульнавядомы фотаздымак нашага першага ўрада Беларускай Народнай Рэспублікі. Дзевяць беларускіх апосталаў. Вясёлым аптымізмам праменяць іхнія вочы, бялеюць каўнерыкі ў цывільных, пабліскваюць наваксаваныя боты ў вайскоўцаў. Я ўпэўнены, што даў бы ім Бог гэты саракатысячны беларускі корпус, які быў сфармаваны на Румынскім фронце, і яны пабудавалі б нашую мару — заможную незалежную Беларусь! Але корпус да Беларусі не даехаў.

25 сакавіка — гэта не толькі беларускае дабравесце. У гэты дзень анёл Гаўрыіл абвясціў Марыі пра тое, што яна абраная Богам за маці для Ісуса Хрыста. Не толькі гісторыя Беларусі, але і ўся гісторыя чалавецтва дзеліцца гэтым днём на дзве часткі. Стары запавет сустракаецца тут з Новым, старая эра — з новай. Здзейснілася тое, чаго так доўга чакалі і пра што казалі прарокі ў Старым запавеце. Чалавек быў узнесены да вялікай годнасці, таму што Бог стаўся чалавекам. І тое, што было, здавалася б, недасягальным ідэалам, запаветнаю мараю, — адбылося!

Але доўгі час мала хто ведаў пра гэтую хвіліну і яшчэ менш верылі. 25 сакавіка — зьвеставанне, дабравесце.

Недарма на мове "обрусителей" гэта — "благая весть". Няхай жа сапраўды для іх яна будзе такой, а нам яна надасць веры і ўпэўненасці ў нашую светлую будучыню.

# Мы называем гэта...




Мы называем гэта “Беларусь”, яны называюць “клачок землі”. Мы спяваем “Я нарадзіўся тут”, яны – “Широка страна моя родная”. Мы называем гэта “паўстанне Кастуся Каліноўскага”, яны – “польский мятеж”. Мы кажам “Мураўёў-вешальнік”, яны – “талантливый администратор”. Мы называем гэта “бальшавіцкі тэрор”, яны – “это наша история”. Мы называем гэта “этнацыд”, яны – “перегибы на местах”. Мы называем гэта “народны мемарыял у Курапатах”, яны – “Бульбашъ холл”. Мы кажам “страшная трагедыя другой сусветнай вайны”, яны кажуць “великая победа советского народа в Великой отечественной войне”. Мы кажам “агульнаеўрапейская гісторыя”, яны “линия Сталина”. Мы называем гэта “права на памяць”, яны – “несанкционированный митинг”. Мы кажам “кніжкі па гісторыі”, яны кажуць – “экстремистские издания”. Мы ўсклікаем “Жыве Беларусь!”, яны кажуць – “размахивал руками, ругался матом и выкрикивал антиправительственные лозунги”. Мы называем гэта “наш бел-чырвона-белы сцяг”, яны – “назарегистрированная символика”. Мы называем гэта “дыктатура”, яны кажуць “За стабильную Беларусь!”.

Мы кажам “выбарны парламент”, яны кажуць “каждая кухарка должна управлять государством”. Мы кажам “недзяржаўныя грамадскія арганізацыі”, яны кажуць “пятая колонна”. Мы кажам “незалежная прэса”, яны кажуць “нячэсныя журналісты”. Мы пішам “у нас значныя праблемы”, яны кажуць “дискредитация Республики Беларусь”. Мы кажам “Беларусь у Еўропу!”, яны кажуць “мы за цивилизованным миром наш народ не поведём”.

Мы называем гэта “чарнобыльская трагедыя”, яны – “мирный атом”. Мы кажам “Астравецкая атамная станцыя – гэта злачынства!”, яны кажуць “создание новых рабочих мест – это хорошо”. Мы кажам “роўныя магчымасці на выбарах”, яны – “избирательные комиссии сформированы их опытных людей”. Мы кажам: “фальсіфікацыя выбараў”, яны кажуць “наблюдатели от СНГ нарушений не зафиксировали”. Мы кажам “мясцовае самакіраванне”, яны – “вертикаль и генерал-губернаторы”. Мы кажам “самабытнасць мястэчак”, яны кажуць “развитие агрогородков”. Мы кажам “гаспадарчы крызіс”, яны – “скачок тигра”. Мы кажам “развіваць малое і сярэдняе прадпрымальніцтва”, яны – “давить, как вшивых блох”. Мы кажам “новае прыгоннае права”, яны – “контрактная система”. Мы кажам “мадэрнізацыя эканомікі”, яны – “пятилетку в четыре года”. Мы кажам “шматвектарнасць развіцця”, яны – “мы расшырым плашчадя, увеличым машчнастя”. Мы кажам “Балтыйска-чарнаморскі звяз”, яны – “А у нас российский газ і Каракас”. Мы кажам “нацыянальная ідэя”, яны кажуць “чарка і шкварка”.

Мы кажам “Віфлеемская зорка”, яны кажуць – “звёздочка октябрят”, мы кажам “Хрыстос Уваскрос!”, яны адказваюць “Нам уже доложили”. Мы кажам “шматканфесійная краіна”, яны кажуць “государство и церковь едины”. Мы кажам “Не – смяротнаму пакаранню!”, яны кажуць “террористический акт раскрыт рекордно быстро”.

Мы кажам “бязвізавы ўезд”, яны – “единое таможенное пространство”. Мы кажам “адкрытасць межаў”, яны кажуць “редкая птица долетит до середины Буга”. Мы кажам “матчына мова”, яны – “великий и могучий”. Мы называем гэта “знішчэнне беларускай мовы”, яны – “равноправие двух государственных языков”. Мы кажам “ахова помнікаў архітэктуры”, яны кажуць “упорядочение территории”. Мы кажам “старая брукаванка”, яны – “новая губернаторская плитка”. Мы кажам “талака”, яны “ленинский субботник”. Мы кажам “давайце паставім хоць адзін помнік Льву Сапегу”, яны – “У нас есть много памятников Ленину”. Мы кажам “беларускі тэатр”, яны кажуць “Славянский базар”. Мы кажам “п’яны мужык”, яны – “неустановленное лицо предположительно мужского пола, вероятно находящееся в состоянии алкогольного опьянения”…

У нас вельмі розныя мовы, светагляды і разуменні. І як нам далей жыць у такой краіне?..

***Уладзімір Хільмановіч***

# Хронiка правапарушэнняў

## *Гарадзеншчына, сакавiк*

## Крымiнальныя справы супраць актывiстаў грамадзянскай супольнасьцi



***16 сакавіка стала вядома, што следства па справе гарадзенскага журналіста Андрэя Пачобута спынена. Папярэдняе расследаванне спынена ў сувязі з тым, што няма доказаў у меркаваным злачынстве – паклёпе на кіраўніка Беларусі.***

## Адміністрацыйныя справы супраць актывістаў грамадзянскай супольнасьцi



18 сакавіка суддзя Кастрычніцкага раённага суда Гародні Зінаіда Барцэвіч засудзіла прадстаўніцу Партыі БХД пенсіянерку Галіну Котаву да штрафу ў два з паловай мільёны беларускіх рублёў. Барцэвіч палічыла пенсіянерку вінаватай у здзяйсненні адміністрацыйнага правапарушэння – правядзенні несанкцыянаванага пікету ў Румлёўскім парку. Суддзя не ўзяла пад увагу ні тое, што Котава адразу спыніла правядзенне пікету, калі зразумела, што ён не дазволены, ні памер пенсіі жанчыны, якая складае толькі адзін мільён семсот тысяч у месяц.

## Іншыя формы пераследу, дыскрымінацыі і парушэння заканадаўства з боку ўладаў

**4 сакавіка** журналіст Андрэй Пачобут дазнаўся пра правядзенне «несанкцыянаванай акцыі», якая прызначана на **11 сакавіка.** Гарадзенскага журналіста папярэдзілі пра недапушчальнасць з'яўлення на мітынгу. «У выпадку парушэння забароны Андрэя Пачобута чакае турма», - папярэдзіў афіцэр міліцыі.

**12 сакавіка** ў Гародні супрацоўнікі міліцыі затрымалі сябра Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі Сяргея Верамеенку. Верамеенка накіроўваўся з торбай улётак у партыйны офіс, што на вуліцы Будзёнага 48 а. На ўваходзе яго запынілі двое асобаў у цывільным, якія прадставіліся супрацоўнікамі міліцыі. Верамеенку затрымалі на вачах ягоных аднапартыйцаў і павезлі ў пастарунак. У торбе затрыманага былі ўлёткі з тэкстам і адрасамі у падтрымку палітвязняў. Сябры БХД збіраліся распаўсюджваць іх у рамках кампаніі салідарнасці “Напішы палітвязню ліст”. Пасля апытання Верамеенку адпусцілі, але ўлёткі не аддалі.

У сакавіку ў Зэльве забаранілі прэзентацыю краязнаўчай кнігі публіцыста Сяргея Чыгрына.

**21 сакавіка** кіраўнік Слонімскага згуртавання дэмакратычных сіл Іван Шэга атрымаў пісьмовае папярэджанне ад маёра міліцыі Слонімскага РАУС Ігара Клыбіка. У ім маёр міліцыі “перасцярагае аб недапушчальнасці парушэння парадку арганізацыі ці правядзення масавага мерапрыемства ці пікітавання”. Шукалі таксама іншага грамадскага актывіста Івана Бедку.

Грамадскага актывіста з гораду Бярозаўка, рэгіянальнага каардынатара “Руху за свабоду” Сяргея Трафімчыка напярэдадні 25 сакавіка беспадстаўна турбавалі міліцыянты. **22 сакавіка** яму патэлефанаваў начальнік Лідскага РАУС і папрасіў з’явіцца на гутарку. **23 сакавіка** выявілася, што кіраўніка мясцовай міліцыі няма на месцы і ён будзе толькі заўтра. Актывісту выпісалі позву з’явіцца ў РАУС **24 сакавіка**. У позве нічога не пазначана – ні паводле якой справы ён выклікаецца, ні ў якасці каго. Трафімчык пакінуў у кнізе скаргаў адпаведны запіс пра парушэнні, паколькі такі выклік быў незаконным.

**24 сакавіка** супрацоўнікі Слонімскага РАУС не дазволілі сябрам Слонімскага згуртавання дэмакратычных сіл правесці спартыўны забег па набярэжнай канала Агінскага, прысвечаны 95-годдзю БНР.

**У сакавіку** акрэдытаванаму гарадзенскаму журналісту Радыё Свабода Міхаілу Карневічу не дазволілі наведаць пляцоўку будавання АЭМ у Астравецкім раёне. Журналіст, падаўшы адпаведныя дакументы, атрымаў папярэдні дазвол наведаць будоўлю, але калі прыехаў у Астравецкі раён, яго на аб’ект усё роўна не пусцілі.

# Песімізм аптыміста або “япою”



Давялося мне ўдзельнічаць у справаздачна-выбарчым сходзе саліднай і, як я лічу, найбольш паспяховай грамадскай арганізацыі. Каротка пра поспехі можна сказаць наступнае: арганізацыя змагла пабудаваць у самым цэнтры абласнога горада свой вялізны будынак, у процілегласць таму, як многія амбітныя ГА арандуюць каморкі і просяць грошы ў сяброў сваіх арганізацый на аплату арэнды; на сходзе прысутнічала амаль чатырыста сяброў арганізацыі. Але размова не пра гэта.

У час перапынку, калі адбывалася галасаванне, людзі гуртаваліся ў групкі і пра нешта сваё размаўлялі. Воляй лёсу я трапіў у такую групку вакол консула суседняй краіны. Калі наступіла паўза ў размове, консул з вышыні свайго, хіба двухмятровага росту, акінуў позіркам залю і ў задуменні сказаў: “ Не, ніякіх змен у бліжэйшы час у Беларусі чакаць ня варта.” Я з хвіліну пераварваў сэнс яго сказу і ня змог не задаць пытанне: “Але чаму вы так лічыце?” У скароце адказ быў такі. Дадзеная грамадская арганізацыя паспяхова існуе 20 гадоў. ГА ствараюцца, каб вырашаць пэўныя грамадскія праблемы, але ня толькі. У ГА сябры павінны вучыцца і развівацца. Асабліва ў развіваючыхся краінах. І выбарчы сход павінен служыць ня толькі для абрання Старшыні ГА, але і для паказу, якімі павінны быць выбары. Наогул, што такое выбары ў дэмакратычным грамадстве!? Асабліва гэта важна ў краіне, дзе на дзяржаўным роўні выбараў няма. Але дваццаць гадоў у гэтай, а думаю, што ў пераважнай большасці ГА, адбываюцца не выбары, а галасаванне. Бо альтэрнатыўных кандыдатаў няма. І тут апошняя дыктатура ў Еўропе пайшла далей за ГА: яна, бывае, дапускае альтэрнатыву. Праўда глушачы яе сваімі спосабамі, але гэта іншая размова. “Вось чаму я зрабіў такую выснову”,- сказаў у завяршэнне консул. Мне не было чым запярэчыць…

Неяк сядзелі мы з сваім сябрам, з якім сустракаемся ня так часта, перад “скрынкаю”, па якой сярод іншага паказвалі фрагменты збівання мірных дэманстрантаў “белаРускім ОМОНам, хапання людзей нейкімі пачварамі ў цывільным …І мой суразмоўца, адыходзячы ад тэмы нашай размовы, раптам сказаў: “ Не, ніякіх змен у бліжэйшы час на Беларусі чакаць ня варта.”

“Чаму?”- збянтэжаны ад нечаканасці, запытаўся я. І пачуў такі адказ: “Паглядзі, гэтыя вырадкі ў цывільным хапаюць дзяўчынку, амаль дзіця, б’юць, валакуць, кідаюць як бервяно ў машыну, дзе будуць далей з яе здзекавацца! І я не ўбачыў ні аднаго выпадку, каб за яе ўступіўся малады чалавек, ці, наогул, мужчына… Бывае адбіваюць у гэтых сцярвятнікаў ахвяру. Але, заўваж! Хто? Жанчыны, размахваючы сваімі сумачкамі з жаночымі прычындаламі! Нават мужчын, бывае, адбіваюць! Бо гэтыя сцярвятнікі ў большасці баязліўцы. Няма мужчын на Беларусі. Вось чаму я зрабіў такую выснову”.

“Телеканал ОНТ. Беларусь. Детский музыкальный конкурс "Я пою!"

«Проект побил все рекорды по зрительскому вниманию, и в этом большая заслуга "детей с нелегкой судьбой, получивших возможность выйти на большую сцену и сказать всей стране: "Я пою!".

Прокомментируют выступления ребят эксперты проекта. Ведущий проекта: режиссер театра и кино, отец шестерых детей – Дмитрий Астрахан”. Дадам ад сябе, пра што сціпла замоўчана – “российский режиссёр театра и кино, заслуженный деятель искусств России”.

І гэта праўда. Можна нават дадаць, што гэта быў сапраўдны феерверк прыгожых дзіцячых выступаў і бацькоўскіх ды глядацкіх эмоцый. Не раз на вачах гледачоў блішчалі слёзы, далоні, напэўна, яшчэ ні адзін дзень будуць балець ад шчырых апладысментаў…Ну проста з’явіўся да гэтых дзетак “волшебнік”! Але ў мяне чамусьці гэтае шоў выклікала зусім іншыя думкі і эмоцыі. І я дазволіў сабе іх выказаць. Нязгодных гатовы выслухаць. Магчыма я памыляюся…І я не супраць, каб гэта было так.

Якія толькі ханы не рваліся на Беларусь цягам яе шматвяковай гісторыі…Яшчэ з школьных партаў памятаем Чынгізхана, Бату хана…Неяк адбіваліся, не давалі браць ясыр, не было янычар з беларусаў…І вось дачакаліся Астра-Хана. Гэта хан цывілізаваны, таму прыёмы ў яго таксама “цывілізаваныя”. Навошта вайна, ясыр? ¨н у сваіх ахвяр-дзетак беларускіх “пракручвае ў сваіх мясарубках мазгі, не пакідаючы вонкавых слядоў.” Потым яны ўжо самы прыедуць і будуць у гарэмах, будуць у атрадах янычараў…Пракручванне мазгоў абстаўляецца так па-майстэрску, што ўсе шчаслівыя. Шчаслівыя дзеці, якія не разумеюць, што з імі адбываецца. Як, магчыма назаўсёды, ломіцца ня толькі іх жыццё, але іх “Я”. Шчаслівыя ў сваім няшчасці бацькі. Яны ўбачылі магчымасць у сваіх дзяцей вырвацца з таго калгасу, у якім жывуць самі…,застаючыся няшчаснымі ў сваім шчасці. А якія шчаслівыя “Педагоги-умнички”, ці “умнички-педагоги?” Яны на гэтым “сьвяце фаршу” самыя зорныя зоркі. Вось “педагог-умничка” маналагуе: ... такой органичный ребёнок, так органично вписывается в своё родное…Но мы ему сказалі: “Будеш петь «Танцы»!”

І ўрэшце аніводнай песні па-беларуску… Ні аднаго СЛОВА па-беларуску! Не, схлусіў я. Бываюць праколы. Адбыўся цуд:

“…Белы сьнег, белы сьнег, белы сьнег, белы клён
Белы сьнег, белы сьнег, белы сьнег, белы сон
Як паходня твой шаль ружавее
На зямлі я і ты і завея
І вакол ні вачэй, ні вакон
І вакол ні вачэй, ні акон…”

“Завіруха” зачаравала залю. Амаль усе раптам перасталі пляскаць, перасталі нават быць шчаслівымі. Усе сталі слухачамі, усіх (гэта мне так хочацца, ну амаль усіх) зачаравала “Завіруха”! І ў гэтай Завірусе я шукаю карані свайго аптымізму, песімістычна заяўляючы, пакуль Ханы беспакарана будуць гаспадарыць на нашай зямлі, “пракручваючы мазгі праз мясарубкі”:

“Не, ніякіх змен у бліжэйшы час у Беларусі чакаць ня варта”. “Япою”…

*Лявон Карповіч*




# Маркі







Напярэдні самага беларускага свята Дня волі надумаўся павіншаваць тых, хто будзе сустракаць яго за кратамі і для каго гэтае свята ёсць святлом надзеі і беларускага адраджэння. Зайшоў на пошту, каб набыць капэрты. А там вялічэзная чарга. Стаяць пераважна жанчыны сталага веку, атрымліваюць пенсію і адразу аплочваюць камунальныя паслугі і іншыя рахункі. Пры гэтым перапытваюць супрацоўніцу пошты па некалькі разоў што і да чаго, доўга разбіраюцца ды большую частку часу губляюць на спрэчкі паміж сабой і высвятленне хто за кім займаў чаргу. Вельмі марудна тая чарга прасоўвалася. Таму я адважыўся папрасіцца набыць капэрты без чаргі.

– Я ў вас часу не забяру, – тлумачу. – Мне ўсяго капэрты набыць. Менш чым за хвілінку ўпраўлюся.

Але чарга адрэагавала настолькі агрэсіўна і варожа, што я ціхенька стаў у хвост і вырашыў моўчкі падпарадкавацца лёсу. Але некалькі чалавек з чаргі палічылі маю просьбу настолькі злачыннай, што не маглі супакоіцца. Доўга і галосна разважалі пра непрыстойнасць майго ўчынку і пра заняпад маралі ў грамадзтве ў цэлым. Праз нейкі час жарсці патроху сталі заціхаць і вось-вось павінны былі скончыцца. Але акурат у гэты момант на пошту зайшоў мужчына прыкладна маіх гадоў з партфелям у руках. Убачыўшы доўгую чаргу ён накіраваўся адразу да касы.

– Прапусціце мане, – гучным басам які не прыме адмовы заявіў ён. – Я сацыяльны работнік. І я спяшаюся на працу. Прабачце.

Нехта паспрабаваў паспрачацца, але сацыяльны работнік павярнуўся да яго і заявіў:

– Я ж папрасіў прабачэння! Што вы ад мяне яшчэ хочаце.

Чарга пасунулася назад і моўчкі прапусціла чыноўніка. А пясля як той пайшоў па сваіх справах зноў загаварыла:

– Гэтага то трэба прапускаць. Правільна зрабілі што прапусцілі. ¨н можа ў гарадзкой адміністрацыі працуе. І культурны які чалавек. Прабачэння папрасіў. Другі б мог яшчэ і ў вочы плюнуць. ¨н жа начальнік!

Сумна было тое слухаць і чарговы раз сутыкнуцца з рабскай псіхалогіяй, якая яшчэ і шукае апраўдання сваім дзеянням ды выліваецца ў агрэсію да усіх, акрамя тых, хто гэтых людзей сапраўды крыўдзіць. Але час ішоў і вось ужо і я апынуўся перад касай. Я думаў пра мяне ўжо ніхто не памятае, але памыліўся. Бо нават тыя, хто ўжо разабраўся з сваімі справамі засталіся каб праверыць, ці сапраўды я буду купляць толькі капэрты.

– Мне пару дзесяткаў капэртаў дайце, – папрасіў я і хуценька разлічыўся.

– А навошта вам столькі? – Нечакана для мяне спыталася адна жанчына. – Вы ж, сучасныя, зараз лістоў не пішаце. Па тэлефонах эсымэсы нейкія ўсё пасылаеце.

– Нажаль гэтым людзям эсэмэсы паслаць немажліва, – задумліва адказваю я. – Яны ў турме сядзяць. Таму ўсё ж трэба пісаць лісты.

І патроху пасунуўся да дзвярэй. Але нечакана для сябе заўважыў, што ўсе замоўклі і здзіўлена глядзяць на мяне. Нават пенсіі перасталі браць.

– У вас так шмат знаёмых у турме?! – Здзіўлена праляпатала адна жанчына.

А яшчэ адна кажа сваёй суседцы па чарзе:

– Я ж табе казала, дурная ты, што гэта можа які бандыт, а ты яго прапускаць не хацела. Так і на непрыемнасці нарвацца можна.

Я хацеў спачатку патлумачыць, што я ніякі не бандыт і людзям не помшчу за тое, што мяне без чаргі не прапускаюць. Але пасля вырашыў не губляць часу і пайшоў сабе на вуліцу. І толькі там зразумеў, што ў гэтай мітусьні забыўся набыць маркі. Мне нічога не заставалася як вярнуцца. Зайшоўшы на пошту я зноў стаў у хвост чаргі, але гэтым разам усё адбылося наадварот.

– А чаго ж вы там сталі? – Выявіла мяне з задуменнага стану адна жанчына.

– Маркі забыўся набыць, – адказваю.

– Дык ідзіце без чаргі, – заявіла яна. – Што ж вы стаяць столькі будзеце!

– Ідзіце, ідзіце, – наперабой залямантавалі іншыя і расступіліся.

А я быў гэтым настолькі ўражаны і разгублены, што нават забыўся падзякаваць. Бо з галавы не вылазіла адна думка. Што ж гэта сталася ў грамадзкай свядомасці за апошнія гады, што каб цябе паважалі трэба стаць або начальнікам, або бандытам.

***Віктар Сазонаў***

# Каляндар памятных і круглых датаў Гарадзеншчыны на красавік 2013 году

**1 красавіка**

465 гадоў таму (1548) – Памёр Жыгімонт І Стары, вялікі князь літоўскі і кароль польскі ў 1506-48 гг.

240 гадоў таму (1773) – У Юршышчах (Лідзкі пав.) нарадзіўся Юстын Нарбут, гісторык, удзельнік паўстаньня 1794 году, стрыечны брат Тодара Нарбута.

70 гадоў таму (1943) – Расстраляны (ці памёр у Берлінскай турме) Антон Неманцэвіч, беларускі ўніяцкі сьвятар, царкоўны дзеяч, вязень савецкіх і фашыстоўскіх турмаў. Працаваў у Слоніме, Альбярціне, Сынковічах.

**2 красавіка**

160 гадоў таму (1853) – У ноч на 2 красавіка моцная паводка ў Гародні падмыла Каложскую царкву. У выніку абвалілася паўднёвая сьцяна і палова заходняй.

80 гадоў таму (1933) – У в. Зьмяёўцы (Дзятлаўскі р-н) нарадзіўся Віктар Шымук, беларускі пісьменьнік, перакладнік.



**3 красавіка**

40 гадоў таму (1973) – Памёр Анатоль Марцінкевіч, адзін з пачынальнікаў беларускага баскетболу. Нарадзіўся, жыў і працаваў у Гародні.

**4 красавіка**

330 гадоў таму (1683) – Памёр Багуслаў Казімер Маскевіч, вайсковы і грамадзкі дзеяч ВКЛ, пісьменьнік-мемуарыст. Пахаваны ў дамініканскім касьцёле ў Навагрудку.

150 гадоў таму (1863) – У баі загінуў Юльян Бакшанскі, удзельнік вызвольнага руху, камандзір паўстанцкага атраду, публіцыст. Нараджэнец маёнтку Тупальшчына (Смургонскі р-н). Пахаваны ў в. Плябань (Маладэчанскі р-н).

90 гадоў таму (1923) – У Наваградку нарадзіўся Кастусь Сіткоўскі, беларускі настаўнік, эмігрант (Аўстралія).

**5 красавіка**

90 гадоў таму (1923) – У в. Старыя Дзевяткавічы (Слонімскі р-н) нарадзіўся Барыс Данілюк, дзеяч СБМ, беларускай эміграцыі (Нямеччына, ЗША).

**6 красавіка**

65 гадоў таму (1948) – Памёр Мікола Шыла (нар. у 1888 у Смургонях), грамадзкі дзеяч, нашанівец, журналіст, дзеяч беларускай эміграцыі (Нямеччына).

**7 красавіка**

30 гадоў таму (1983) – Памерла Ларыса Геніюш, беларуская паэтка, вязень ГУЛАГу. Пахавана ў Зэльве.

**9 красавіка**

155 гадоў таму (1858) – Нарадзіўся (каля Пінску) Фадзей Дмахоўскі (дата сьмерці невядомая), жывапісец, графік. Пакінуў малюнкі Лідзкага замку.

**11 красавіка**

205 гадоў таму (1808) – У в. Ляхі (Пружанскі р-н) нарадзіўся Леан Зянковіч, паэт, публіцыст, мемуарыст, удзельнік паўстаньня 1830-31. Вучыўся ў Сьвіслачы.

150 гадоў таму (1863) – Каля вёскі Новы Двор (Шчучынскі р-н) адбылася бітва паміж паўстанцкім атрадам Людвіка Нарбута і расейскім войскам.

**15 красавіка**

85 гадоў таму (1928) – У в. Рацюны (Браслаўскі р-н) нарадзіўся Павал Жук, вязень ГУЛАГу, удзельнік Нарыльскага паўстаньня, стваральнік Гарадзенскай абласной Асацыяцыі ахвяраў палітычных рэпрэсіяў.

**17 красавіка**

150 гадоў таму (1863) – У Коўне ў шпіталі ад ран памёр Лявон Кульчыцкі (нар. каля 1823), адзін з кіраўнікоў паўстаньня 1863 году на Гарадзеншчыне.

40 гадоў таму (1973) – Памёр Пётр Юргялевіч, беларускі мовазнавец, педагог, вязень савецкіх канцлягераў. Нараджэнец мяст. Трабы (Івейскі р-н).

**18 красавіка**

Міжнародны дзень помнікаў і гістарычных мясьцін.

175 гадоў таму (1838) – У маёнтку Адамарын (Маладэчанскі р-н) нарадзіўся Уладыслаў Дыбоўскі, удзельнік паўстаньня 1863-64, заолаг, батанік, палеантолаг, мінеролаг, фальклярыст. З 1878 - да пач. 1900-ых жыў у Нянькаве (Наваградзкі р-н).

**20 красавіка**

255 гадоў таму (1758) – Нарадзіўся (у Слонімскім пав.) Язафат Булгак, уніяцкі мітрапаліт, базыльянін.

120 гадоў таму (1893) – У в. Дордзішкі (Смургонскі р-н) нарадзіўся Леанард Чарняк, беларускі рымска-каталіцкі сьвятар. Вучыўся ў Ашмянах, працаваў у Эйшышках, з 1920 у Смургонях, у 1933-36 у Трабах.

**21 красавіка**

180 гадоў таму (1833) – У в. Мастаўляны (Беласточчына) нарадзіўся Віктар Каліноўскі, гісторык, археограф, адзін зь ідэолагаў паўстаньня 1863 году Жыў у фальварку Якушоўка (Сьвіслацкі р-н).

**22 красавіка**

150 гадоў таму (1863) – Каля мяст. Азёры (Гарадзенскі р-н) прайшоў бой паміж паўстанцкім атрадам Аляксандра Лянкевіча і расейскім войскам.

**25 красавіка**

10 гадоў таму (2003) – Па дарозе ў Беларусь памёр Янка Жамойцін, беларускі грамадзкі дзеяч, публіцыст, дзеяч беларускай эміграцыі (Польшча). Нараджэнец в. Клімавічы (Лідзкі р-н).

**26 красавіка**

Дзень памяці ахвяраў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС (1986).

130 гадоў таму 1883 – Памёр Напалеон Орда, піяніст, кампазітар, мастак, удзельнік паўстаньня 1830-31. У 1823-ім скончыў Сьвіслацкую гімназію.

**27 красавіка**

400 гадоў таму (1613) – У Жыровічах заснаваны ўніяцкі кляштар.

*Кожны аўторак у эфіры незалежнай радыёстанцыі "Радыё Рацыя" - праграма "Людзьмі звацца!", якая асвятляе падзеі, датычныя правоў чалавека на Беларусі. Час выхаду ў эфір – 15-05 (паўтор - серада 0:05-1:00 і субота 7:05-8:05). Таксама ў гэты час яе можна слухаць праз інтэрнэт на сайце*

**www.racyja.com**

*Больш падрабязную праваабарончую інфармацыю па ўсёй Беларусі вы можаце атрымаць на сайце*

**www. spring96.org**




*На сайце*

**www.palitviazni.info**

*вы таксама можаце атрымаць інфармацыю пра палітычных зняволеных у Беларусі*

*Больш падрабязную праваабарончую інфармацыю па Гарадзеншчыне вы можаце атрымаць на сайце*

**www.harodniaspring.org**



*Праваабарончая інфармацыя з іншых рэгіёнаў Беларусі:*

**Берасце - www.brestspring.org**
**Віцебск - www.vitebskspring.org**
**Гомель - www.gomelspring.org**
**Магілёў - www.mahilyowspring.org**

Гарадзенскі праваабарончы
інфармацыйна-аналітычны
бюлетэнь «Прэзумпцыя»
выходзіць 1 раз у месяц
наклад 299 асобнікаў
для нутранога карыстаньня

падрыхтаваны да друку:
сакавік 2013
e-mail:prezumpcyja@gmail.com
распаўсюджваецца задарма
пры перадруку спасылка
абавязковая

